*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года **№ 31 (717) 17 ЖНІЎНЯ 2005 г.**

# Нам не патрэбна рускамоўная хваля

**Сп. Яну Канторчыку,**
**часоваму паверанаму**
**ў справах Федэратыўнай Рэспублікі Германія**
**у Рэспубліцы Беларусь**
**220034, г. Мінск, вул. Захарава. 26**

**Паважаны спадар Амбасадар!**

Дасылаем Вам чарговыя 47 подпісаў грамадзян Беларусі, якія хочуць слухаць "Нямецкую хвалю" па-беларуску, тым больш, што зараз на гэтыя мэты выдзяліў грошы са свайго бюджэту Еўразвяз. Дарэчы, палітыка Еўразвязу накіраваная на падтрымку нацыянальных моў усіх краін без выключэння. Таму вяшчаць за грошы Еўразвязу на Беларусь па-руску будзе зусім незразумелай справай.

Звяртаю Вашую ўвагу на тое, што сярод падпісчыкаў такія вядомыя людзі як пісьменнікі Вольга Іпатава, Анатоль Вярцінскі, Уладзімір Някляеў, Міхась Скобла, Станіслаў Суднік, кіраўнікі Партыі БНФ Вінцук Вячорка і Аляксей Янукевіч, рэжысёр Валер Мазынскі.

Дасылаем Вам нумар газеты ТБМ "Наша слова", у якім надрукаваны адказ на наш ліст у рэдакцыю "Нямецкай хвалі".

**З павагай**
**старшыня ТБМ – Алег Трусаў.**

**Галоўнаму рэдактару**
**перадач на замежных мовах**
**радыёстанцыі "Нямецкая хваля"**
**сп. М. Зорычу**

**Шаноўны спадар Зорыч!**

Ваш адказ на наш ліст мы надрукавалі ў нашай газеце "Наша слова" і дасылаем Вам адпаведны нумар.

Нядаўна мы даведаліся, што Еўразвяз выдзяляе Вам значную суму грошай для вяшчання на Беларусь. Агульнавядома, што нацыянальныя мовы ўсіх краін-удзельніц Еўразвязу маюць роўныя правы, у тым ліку эстонская і мальтыйская.

Ніхто не збіраецца ўводзіць нейкую мову, напрыклад, англійскую, у якасці афіцыйнай мовы Еўразвязу. Таму вельмі лагічна, што калі нямецкая дзяржава не мае грошай, каб беларусы чулі на "Нямецкай хвалі" родную мову, гэта можна і трэба зрабіць за грошы Еўразвязу.

**З павагай**
**старшыня ТБМ – Алег Трусаў.**

## ПАСОЛЬСТВА ФРГ СПАДЗЯЕЦЦА, ШТО "НЯМЕЦКАЯ ХВАЛЯ" НЕ АДМОВІЦЦА АД ПЛАНАЎ ПА СТВАРЭННІ ПЕРАДАЧЫ ДЛЯ БЕЛАРУСКІХ СЛУХАЧОЎ

12 жніўня пасольства ФРГ у Беларусі распаўсюдзіла заяву ў сувязі з лістамі пратэсту супраць адмены перадач радыёстанцыі "Нямецкая хваля" па беларускай тэматыцы на рускай мове.

Як паведамляў БелаПАН, "Нямецкая хваля" выйграла тэндар Еўракамісіі і восенню гэтага года плануе пачаць выпуск штодзённай інфармацыйнай праграмы аб Беларусі і для Беларусі на рускай мове. Аднак супраць рускамоўнага вяшчання выступілі прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі і нацыянальна арыентаваных рухаў. Сярод іх — кіраўнік грамадскай арганізацыі "Таварыства беларускай мовы" (ТБМ) Алег Трусаў, палітыкі Станіслаў Шушкевіч, Зянон Пазняк, Івонка Сурвіла, Вінцук Вячорка, палітолаг Віталь Сіліцкі.

Паводле інфармацыі пасольства ФРГ, перад радыёстанцыяй "Нямецкая хваля" стаіць выбар: трансляваць абмежаваны па часе інфармацыйны блок на рускай мове, матэрыялы якога ўяўлялі б цікавасць для беларускіх слухачоў, або захаваць усё ў ранейшым выглядзе, без спецыяльных перадач па беларускай тэматыцы. Планаў аб стварэнні на радыё праграмы на беларускай мове не было, адзначаецца ў заяве.

Пасольства таксама паведамляе, што "Нямецкая хваля" вядзе вяшчанне на мовах, колькасць якіх абмежавана, і "не мае фінансавых сродкаў для стварэння праграмы на беларускай мове". На думку пасольства, намаганні радыёстанцыі па стварэнні перадачы для Беларусі "заслугоўваюць прызнання".

"Апытанні грамадскай думкі, якія праводзяцца незалежнымі інстытутамі ў Беларусі, пацвярджаюць важную ролю рускай мовы як адной з двух дзяржаўных, асабліва ў палітычнай сферы", — падкрэсліваецца ў заяве германскай дыпмісіі.

Пасольства выказвае надзею на тое, што лісты з выказваннем пратэсту не стануць для "Нямецкой хвалі" падставай адмовіцца ад планаў па стварэнні інфармацыйнай перадачы для беларускіх слухачоў.

*М. РАХЛЕЙ, БелаПАН.*

# 125 гадоў з дня народзінаў Гальяша Леўчыка



**Гальяш Леўчык** (сапр. Ляўковіч Ілья Міхайлавіч; 20.07.1880, г. Слонім - вер. 1944), беларускі пісьменнік. Скончыў Слонімскую павятовую навучальню. З 1896 служыў у Слоніме ў канцыляры міравога суддзі, пісарам у каморніка. У 1904-14 чарцёжнік у магістраце Варшавы. З 1907 супрацоўнічаў з газетай "Наша ніва". У 1908 друкаваў у "Нашай ніве" вершы. У 1912 выдаў у Вільні зборнік паэзіі "Чыжык беларускі". Спрыяў дзейнасці беларускага студэнцкага зямляцтва ў Варшаве, у 1912-14 член Варшаўскага беларускага гуртка. З сярэдзіны 1920-х супрацоўнічаў з Амерыканскай місіяй метадыстаў, пераклаў на беларускую мову спеўнікі ("Божая ліра, 1933). Асуджаў рэжым польскіх уладаў у Заходняй Беларусі. Выступаў за свабоду роднага слова ("Душыцелям слова", нап. 1927). Цяжар народнай трагедыі паказаў у "Калыханачцы" ("Песні аб астрожнай долі", 1926). У 1932 г. напісаў філасофска-метафізічныя паэмы ў прозе "Хараство" і "Чалавек". У публіцыстыцы выступаў за правы беларусаў на сваю культуру. Перакладаў на беларускую мову творы А. Міцкевіча, М. Канапніцкай, Ю. Славацкага, М Някрасава і інш. Яго зборнік "Беларускі жаваранак" не выйшаў з друку.

# 55 гадоў Пятру Краўчанку

13 жніўня споўнілася 55 гадоў сябру Рады ТБМ **Пятру Краўчанку.**

Пётр Кузьміч Краўчанка (нар. у г. Смалявічы Менскай вобл.), дзяржаўны дзеяч Беларусі, гісторык, дыпламат. Скончыў БДУ (1972). З 1975 выкладчык у БДУ, кандыдат гістарычных навук (1976). З 1985 сакратар Менскага гаркаму КПБ. У 1990-94 міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь. Кіраўнік дэлегацыі Беларусі на на 45-48-й сесіях Генеральнай Асамблеі ААН. З 1998 надзвычайны і паўнамоцны пасол Рэспублікі Беларусь у Японіі. Дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь у 1990 і 1995-96, старшыня камісіі па міжнародных справах Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.



*Пётр Краўчанка вядзе рэй на імпрэзе да 95-годдзя Ларысы Геніюш у Зэльве*

У канцы 1980-х стаў на пазіцыі Нацыянальнага адраджэння, садзейнічаў адраджэнцкім працэсам у Менску і Беларусі, наладжванню добрых стасункаў з беларускай дыяспарай.

Пасля вяртання з Японіі перайшоў да актыўнай працы на ніве нацыянальнага адраджэння, садзейнічаў правядзенню многіх адраджэнцкіх мерапрыемстваў, у тым ліку ўстаноўцы мемарыяльнай дошкі ў гонар Наталлі Арсенневай у Вільні, арганізацыя святкавання 95-х угодкаў Ларысы Геніюш і інш.

**Сакратарыят ТБМ, рэдакцыя газеты "Наша слова" шчыра віншуюць Пятра Кузьміча з 55-годдзем і зычаць плёну на ніве служэння нашай роднай Беларусі.**





Павел Сяцко

# Мовазнаўчы досвед.

## Якія словы больш адпавядаюць сучаснай норме беларускай мовы?

**Постаць – асоба.** Першае слова нашыя слоўнікі падаюць з надта збедненай семантыкай: "Постаць. ж. Стан., фігура" (ТСБМ, т.4. с. 294). (Тут і аманімічная адзінка: "Постаць 2 ж. Палоска жыта або іншай збажыны, занятая адной жняёй у час жніва").

Сучасны ж нацыянальны друк выкарыстоўвае лексему ***постаць*** з значэннем, адпаведным расейскаму слову ***личность***. Вось некаторыя прыклады: *Збіранне і рэгістраванне постацяў культуры – справа складаная, якая патрабуе вялікіх калектыўных намаганняў... Аўтар ўсведамляе, што сабраныя ім постаці зусім не вычэрпваюць той вялікай колькасці асоб з тэрыторыі Гродзеншчыны, што плённа працавалі ці працуюць зараз на культурнай дзялянцы жыцця* (Аляксей Пяткевіч. Людзі культуры з Гродзеншчыны: Даведнік – Гродна, 2000. – 356 с. С.3,4). *У выбраную на з'ездзе Раду ТБМ увайшло 58 чалавек. Сярод іх такія відныя постаці нацыянальнай літаратуры і культуры, навукі і адукацыі, як Я. Брыль, Р.Гарэцкі, В. Шарангові, У. Калеснік, А. Мальдзіс, Ф. Янкоўскі, Г. Бураўкін* (Ніл Гілевіч. Ад ідэі да заснавання // Наша слова. № 21 (656). 2004 . 2 чэрвеня, с.3). *Прыказкі малююць збіральны вобраз працоўнага беларуса. З іх скупых радкоў паўстае велічная постаць духоўна багатага, шчодрага душой і сэрцам, непрымірымага да ўціску, добразычлівага, мудрага, вострага на язык чалавека* (Рыгор Шкраба. Сіла слова. Мінск, 1958, с. 35). *У Віцебскай вобласці, лічы, у адным раёне нарадзіліся магутныя постаці беларускай літаратуры, народныя пісьменнікі Беларусі, лаўрэаты шматлікіх прэмій – Быкаў і Барадулін* (Наша слова. № 22 (708). 2005. 15 чэрвеня). *І постаці настаўнікаў доўга трымаюцца ў памяці, калі іх урокіператвараюцца ў адкрыцці* (Роднае слова. 2005. № 6, с.112).

У адмысловай кнізе "Постаці ў гісторыі Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы" (Гродна: ГрДУ, 2005. – 203 с.) аўтар-складальнік прафесар В.П. Таранцей піша: *"Адной з прычын, якая падштурхнула аўтара ўзяцца за напісанне кнігі аб людзях Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы, было жаданне расказаць, як мага болей, аб супрацоўніках, жыццё якіх, педагагічная і навуковая дзейнасць аказалі важкае ўздзеянне на гісторыю развіцця нашай ВНУ. Дарэчы, гэтыя людзі былі самі па сабе асобадмі з энцыклапедычнымі ведамі, разнабаковымі інтарэсамі. Адным словам, былі постацямі на даволі адметным шляху ВНУ"* (с.5).

Як бачым, лексема ***постаць (постаці)*** ў маўленні выдатных беларускіх пісьменнікаў, навукоўцаў, знаных нацыянальных выданняў мае значэнне ***"выбітная асоба"***, адпаведна таму, што ў "Тлумачальным слоўніку" прыпісваецца слову ***асоба*** (ТСБМ, т.1, с. 285-286). Аднак ***асоба*** – слова шматзначнае. Да таго ж, яно мае і іранічную афарбоўку "чалавек, які трымае сябе важна, ганарліва; персона", а таксама "пра чалавека (часцей жаночага полу), калі не хочуць назваць яго імя" (тамсама). Відаць, гэта і паспрыяла таму, што лексема ***постаць*** сёння замяняе ў нацыянальным друку свайго сіноніма ***асоба***.

У перыядычных выданнях гэтае слова стала і назвай адмысловай рубрыкі.. напрыклад, у "Народнай волі" (№ 128 (2189) за 5 ліпеня 2005 года: "**Постаці**: Рыгор Крушына: невядомы класік".

Дарэчы, з гэтым значэннем слова ***постаць*** выкарыстоўваецца і ў мовах нашых суседзяў, што засведчана перакладнымі слоўнікамі: "украінск. *постать* – личность, польск. *postac* - личность, лицо, персона, postac historyczna – историческая личность". Такім чынам, больш адпаведным беларускім эквівалентам да рас. ***личность*** ёсць слова ***постаць*** (а не *асоба*).

***Падпольны і падпольніцкі – нелегальны, патаемны (тайны), канспірацыйны.*** Слова ***падпольны*** не фіксуюць беларускія слоўнікі 1920-х гадоў. Гэта пазычанне з расейскай мовы *(подпольный)*, дзе яно ад *подполье (подпольный)*; якое ад ***пол*** *(под-пол-.- э)*. Перакладныя слоўнікі падаюць наступныя іх беларускія адпаведнікі: "Пол м. падлога; **Подполье** 1. (помещение под полом) *падмосце*; (погреб) *склеп*; (подвал) *сутарэнне"* 2. перен. *падполле*. **Подпольный** 1. *падмастовы, склепавы, сутарэнны*; 2. перен. *падпольны* (РБС-53, с. 463, 449; РБС-82. т.2, с.614).

Рас. ***подпольный*** (і ***подполье***) былі перанесеныя ў беларускую частку слоўнікавага артыкула *(падпольны, падполле)* як палітычныя тэрміны дзеля рэалізацыі ідэі "зліцця нацыяў". У слоўніку В. Ластоўскага засведчана наступнае: "***Подпольный,*** які знаходзіцца пад завалам, памосткам, у порубе, склепе; *тайны, скрытны, падземны"* (Падручны расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік. Коўна, 1924. – Выданне факсімільнага тыпу. Мінск: Навука і тэхніка, 1990. с. 489).

У сучасным перыядычным друку на месцы ***падпольны*** выкарыстоўваецца і наватвор ***падпольніцкі*** – утварэнне ад ***падпольнік*** *(падпольнік + ск - і- падпольніцкі)* – адэквата пазычанага з расейскай мовы *падпольшчык (падпольщик)*.

У суседніх славянскіх мовах з гэтым значэннем ужываюцца свае ўтварэнні, што фіксуецца сучаснымі перакладнымі слоўнікамі: польск. *podziemny, nielegalny, tajny* (рас. *подпольный, нелегальный)*; *nielegalniak (подпольщик)*; чэшск. *ilegalni, podzemni*; славацк. *ilegalni, podzemny* (рас. *подпольный*).

"Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" да слова *падпольны* падае сінонімы *нелегальны, тайны* (ТСБМ, т.3, с.555), а слова *падполле* і з тлумачэннем "дзейнасць, накіраваная супраць улад, якая праходзіць *тайна*, ва ўмовах строгай *канспірацыі*, а таксама жыццё ў такіх умовах..." (Тамсама).

З прааналізаванага відаць, што адмысловымі беларускімі адпаведнікамі да рас. *подпольный* ёсць *нелегальны, патаемны (тайны), канспірацыйны*, а найменнямі асобы – *нелегальнік, патаемнік, канспірацыйнік* (рас. *подпольщик*).

# "КАБ СВЕДЧЫЛІ ПРА БЕЛАРУСЬ"

Так называецца кніга ўспамінаў Марыі Ганько, якая выйшла ў серыі, заснаванай Міжнародным грамадскім аб'яднаннем Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына". Гэтая серыя вяртае імёны і добрыя справы беларусаў замежжа, якіх пасляваенны лёс рассыпаў па свеце. Спадарыня Марыя змагла напісаць кнігу не толькі пра жыццё і дзейнасць свайго мужа Міколы Ганько, але і пра беларусаў Канады, пра іх нялёгкі выгнанніцкі лёс, грамадскія і сямейныя справы многіх нашых суайчыннікаў. Кніга чытаецца з незвычайнай цікавасцю і не толькі таму што створана лёгка. нязмушана, але і таму, што пра жыццё беларусаў у гэтай краіне мала напісана. Хіба што прыгадваецца фундаментальная праца Раісы Жук-Грышкевіч "Жыццё Вінцэнта Жук-Грышкевіча". Але гэтая змястоўная дакументальная кніга была выдадзена ў Таронта 1993 г. і на Бацькаўшчыне больш вядомая вузкаму колу літаратараў і гісторыкаў, хто займаецца даследаваннем беларускай дыяспары, піша пра жыццё і творчасць беларускіх пісьменнікаў і дзеячаў беларускага замежжа, якія жывуць у розных краінах свету.

У кнізе Марыі Ганько сабраныя не толькі ўласныя ўспаміны пра мужа, сумеснае шчаслівае жыццё, аповяды сяброў, артыкулы і дзённік самога Міколы, але і шматлікія дакументы, лісты, а ў дадатку даюцца звесткі пра беларускіх вядомых дзеячаў і беларускія арганізацыі замежжа, якія згадваюцца ў кнізе па ходу апавядання. Выдатная беларуская мова, эмацыянальная насычанасць, сардэчнае цяпло падачы матэрыялу ў адпаведнай хparty храналогіі незабыўных гадоў, праведзеных разам усё гэта выклікае моцнае пачуццё суперажывання і разумення ў чытача. Лёс і дзейнасць Міколы Ганько пасля прачытання гэтай кнігі паўстаюць узорам сапраўднага служэння беларускай нацыянальнай ідэі нашага суайчынніка, дзе б ён ні жыў – на Бацькаўшчыне ці ў далёкім замежжы. Са старонак кнігі яскрава паўстае асноўная сутнасць служэння гэтай ідэі, якую Мікола спавядаў да апошніх дзён свайго жыцця. У яго разуменні нацыянальная ідэя - гэта захаванне вернасці далёкай радзіме, любоў да роднай мовы, гісторыі, лепшых традыцый жыцця народа. А галоўнае – паўсядзённая праца дзеля таго, каб у свеце ведалі пра шматпакутную краіну ў цэнтры Еўропы, якую на працягу многіх стагоддзяў разбуралі, вынішчалі генафонд нацыі розныя войны, акупацыі, рэвалюцыі, калектывізацыі, сталінскія гулагі, катастрофы, дыктатары. Усё гэта Мікола добра ведаў і праз лёс сваіх дзядоў, што жылі на Валожыншчыне, і бацькоў, якія набылі хутар у Калядзіне, непадалёку ад Маладзечна, дзе ў 1924 годзе ён і нарадзіўся. Старэйшы брат Міколы - Міхась (1918), грамадскі дзеяч, публіцыст, паэт - у гады вайны быў кіраўніком Саюза Беларускай Моладзі, актыўным сябрам якога стаў і Мікола, які паспеў да гэтага на выдатна скончыць сямігодку і адміністрацыйна-гандлёвую школу ў Маладзечне, якую заснаваў Барыс Кіт. Як згадваецца ў кнізе, "... Саюз быў для яго арганізацыяй беларускага нацыянальна-патрыятычнага кшталту. Вучні былі ў анямелым захапленьні, што нешта робіцца беларускае, чымта беларускае..." Вось гэтаму беларускаму Мікола працягваў шчыра служыць, апынуўшыся на выгнанні з 1944 года. Спачатку ў Аўстрыі (дзе разам з А. Грыцуком, паэтамі Алесем Салаўём і Уладзімірам Дудзіцкім выдавалі часопіс "Пагоня" і газету "Зь Беларускага Жыцьця", каб "словам адгукацца да суродзічаў і абуджаць у іх надзею на будучыню й жаданьне змагацца далей"), а з 1948 года ў далёкай Канадзе, дзе ў гэтым жа годзе былі закладзены пачаткі Згуртавання беларусаў Канады – створана Часовая Управа Згуртавання Беларусаў Канады, першым старшынём якой быў абраны Кастусь Акула. У 1950 г. заступнікам старшыні Згуртавання абралі Міколу Ганько, быў створаны статут Згуртавання, пачалі выдаваць часопіс "Беларускі Эмігрант".

"З таго часу, – успамінае спадарыня Марыя, - пачынаецца зафіксаваная ў друку (яна пачалася яшчэ ў раннім юнацтве) больш чым пяцідзесяцігадовая нястомная, адданая й шчырая праца Міколы Ганька ў грамадскім жыцці беларусаў, у дадзеным выпадку беларусў Канады. І праца гэтая абарвалася толькі зь ягонай сьмерцю..."




*Кніга Марыі Ганько "Каб сьведчылі пра Беларусь". Укладанне Вольгі Іпатавай.*

Кнігу грэба ўважліва чытаць, бо нельга ў кароткай рэцэнзіі пераказаць яе глыбокі і цікавы змест. Яна дае інфармацыю (акрамя ўсяго іншага) пра многія бакі жыцця і дзейнасці нашых суайчыннікаў: як яны выжывалі ў першыя гады ў невядомым, чужамоўным свеце, як дапамагалі адзін аднаму, засноўвалі касы ўзаемадапамогі, набывалі агульную маёмасць, засноўвалі царкоўнае жыццё (БАПЦ), беларускі выдавецкі фонд, выдавалі газеты, часопісы, кнігі, наладжвалі кантакты з іншымі суполкамі беларусаў у розных правінцыях Канады, сустрэчы з беларусамі ЗША, Згуртаваннем беларусаў Аргентыны, адзначалі нацыянальныя святы і найперш Дзень 25 Сакавіка, праводзілі розныя імпрэзы, выставы, што ладзіліся ў Таронта, дзе заўсёды вывешваўся бел-чырвона-белы сцяг і герб Пагоня, якія спрэчкі і размежаванні адбываліся ў беларускім асяроддзі паміж прыхільнікамі БНР і БЦР, творы якіх беларускіх пісьменнікаў чыталі, якія вершы вывучалі і якія песні спявалі, як арганізоўвалі дапамогу дзецям Чарнобыля і шмат, шмат іншых спраў.

Незвычайна цікава чытаць ліставанне паміж Міколам і паэтам Алесем Салаўём, адкуль мы даведваемся пра складаны лёс гэтага выдатнага паэта, з Уладзімірам Дудзіцкім, які выехаў у далёкую Паўднёвую Амерыку, у Венесуэлу і паведамляў пра беларускае нацыянальнае жыццё ў гэтай экзатычнай краіне, лісты іншых знаёмых і сяброў Міколы, не кажучы ўжо пра "Дзённік Міколы Ганька", ягоныя цікавыя глыбоказместоўныя артыкулы ("Наш шлях да дзяржаўнасьці", "Грамадзкі боль", "На дзень памяці сьв. Кірылы Тураўскага", "Беларуская аўтакефальная праваслаўная царква", "Два гады працы парафіяльнай рады парафіі царквы сьв. Крылы Тураўскага ў Таронта", "Прывітаньне да гасьцей XX сустрэчы беларусаў Паўночнай Амэрыкі", "Становішча і прапановы", "Лісты да Старшыні Рады БНР сп. Язэпа Сажыча", "Даклад на Дзень герояў Беларусі" і інш.) І на фоне гэтых грамадскіх падзей, што складалі асноўны змест і сэнс жыцця Міколы і Марыі, іх паплечнікаў, быццам падсвечваючы яго, у кнізе разгортваецца другая сюжэтная лінія – іх асабістыя ўзаемаадносіны – яе прыезд у Канаду да сваякоў, першае знаёмства з Міколам, якое перарасло ў каханне, стварэнне шчаслівай сям'і, сяброўства. Супольныя справы з іншымі беларускімі сем'ямі, паступовы рост высокай матэрыяльнай забяспечанасці вольных людзей у вольнай краіне...

Кніга прываблівае і сваім знешнім афармленнем: на вокладцы прыгожы партрэт Міколы на фоне беларускага арнаменту, акіянскага цеплахода, на якім беларусы пакідалі родную хату, ад'язджаючы ў далёкія краіны... Старонкі яе аздоблены шматлікімі фотаздымкамі, копіямі дакументаў, якія пацвярджаюць добрыя патрыятычныя справы нашых землякоў за межамі Бацькаўшчыны, куды вяртаюцца яны з небыцця ўжо ў кнігах, якія трэба ведаць і чытаць.

*Лідзія Савік.*

# Шматпакутны Скарына

Здаецца, мы ўжо пачынаем любіць і паважаць нашу гісторыю і культуру. Можа, менавіта гэта і прывяло да таго, што Нясвіжскі палац і Дуга Струве сёлета былі ўключаны ў спіс культурных каштоўнасцяў свету ЮНЕСКА. Але пагаворым толькі пра Менск. Сёння ў сталіцы шмат зроблена для таго, каб яе твар выглядаў прыгожа. Чыстыя вуліцы, мора кветак. Светлыя дамы, прыбраныя паркі і скверы – усё гэта робіць наш горад утульным для жыцця, вясёлым, ветлівым. Шмат чаго зроблена для аднаўлення старыны. Як-ніяк, а Менск – адзін з найстаражытнейшых гарадоў краіны! У Верхнім горадзе кіпіць праца па аднаўленні старых будынкаў. Менск зноў набыў Ратушу – сярэдневяковы сімвал вольнага горада - Гандлёвыя Рады, Гасцінны двор. Хутка ажыве і старая гасцініца "Еўропа". Гэта ўсё дае надзею, што менчукам патрэбна іх гісторыя.

Але хочацца пагаварыць пра нашыя вуліцы, а дакладней пра іх назвы – мікратапаніміку горада. Ужо здавалася, што пасля бурных 90-х гадоў мінулага стагоддзя нашыя ўлады пачалі разумець, што натварыла бязглузная палітызацыя назваў вуліц і сталі асцярожней ставіцца да гэтай "творчасці". Пасля таго, як на карту горада вярнуліся спрадвечныя назвы: Раманаўская Слабада, Гарадскі Вал, Даўгабродская, Ігуменскі тракт і інш., з'явілася надзея на адраджэнне. І нават шматлікія новыя назвы гучаць цікава і самабытна: вуліцы Янкі Лучыны і Прушынскіх у Лошыцы, Вязынская, Мядзельская, Вілейская, Расонская ў вёсках, якія толькі ўвайшлі ў мяжу горада. А гэта ўсё наша гісторыя! "Асноўнай уласцівасцю тапанімічных найменняў з'яўляецца іх устойлівасць, жывучасць, з прычыны чаго яны служаць самымі старажытнымі помнікамі, якія дазваляюць пранікаць у глыбіню гісторыі, культуры і мовы". Усе мае сябры і знаёмыя, нават і тыя, хто не жыве ў сталіцы, здзіўляліся апошнім перайменаваннем, якія прайшлі па Указу Прэзідэнта ад 7 траўня 2005 г. № 261. А я толькі думаў аб нашым пешадрукары, якому ніяк не могуць знайсці падыхо-дзячую вуліцу. У 1989 г. вуліцу Францішка Скарыны перайменавалі ў вуліцу Алешага. У 1990 г. імя нашага славутага асветніка далі вуліцы Акадэмічнай, а ў 1991 г. яго ж імя атрымаў і Ленінскі праспект. Да 1997 г. ўлады ўпэўніліся, што Скарына ўжо добра ўвекавечаны ў назвах вуліц горада і вярнулі Акадэмічнай вуліцы яе імя. Ужо ўся краіна прывыкла да назвы цэнтральнай магістралі сталіцы, як неўзабаве Скарына быў перанесены ва Ўручча, у выніку чаго з карты знік старажытны тапонім Барысаўскі тракт. Ці, можа, і станцыю называць па-іншаму? Падаецца, бытцам мы не ведаем, што нам рабіць і з нашай незалежнасцю. Яна таксама цягаецца па карце горада. Спачатку плошчу Леніна і станцыю метро перайменавалі ў Незалежнасці, потым станцыі вярнулі былую назву, а Незалежнасць цяпер разлілася па ўсяму праспекту. І гэта пры тым, што перайменаванне – справа не танная! Такіх тапанімічных ляпсусаў у Менску хапае. Вось яшчэ адзін з іх. У 1990 г. вуліцы Жданава было надана новае імя – Жылуновіча. Выдатна, але ж у Малым Трасцянцы існуе вуліца Цішкі Гартнага. І ніхто не здзіўляе тое, што гэта імёны аднаго і таго ж чалавека!

Навошта займацца пустой тратай грошай і часу? Безумоўна, Беларусь – краіна – партызанка. У нас хапае герояў Вялікай Айчыннай, памяць аб якіх неабходна ўшаноўваць, але навошта яшчэ больш палітызаваць карту горада? Наш горад і так амаль цалкам страціў сваю тапанімічную самабытнасць. З тых рэдкіх "нігачак", якія сапраўды засталіся жыхарам сталіцы ў спадчыну, фактычна немагчыма сплесці каларытны дыван менскай мясцовасці. І гэта ў горадзе, якому сёлета спаўняецца 938 год! Няўжо мы не разумеем, што назвы вуліц, плошчаў, урочышч і вёсак, якія ўжо сёння зніклі ў мяжы горада – гэта, побач з палацамі, цэрквамі, адметнымі будынкамі, наша непаўторная гісторыя і культура. Яе неабходна зберагаць, захоўваць для нашых дзяцей і перадаваць далей у спадчыну. Хочацца толькі прывесці шэраг такіх цікавых і самабытных назваў, якія былі на карце горада да таго, як іх замянілі на Маркса, Энгельса, Леніна, Герцана, Кірава, Фрунзе, Варанянскага, Пляханава, Казлова... Услухайцеся ў гэтыя назвы: Францысканская, Бернардзінская, Дамініканская, Валокі Полацкія, Вялікая Татарская, Ляхаўка, Уборкі, Пярэспа, Траскоўшчына, Кашары, Пагулянка, Весялоўка, Аднопаль, Цівалі... Іх безліч, але замест таго, каб заняцца рэанімацыяй менскай тапанімікі, кампетэнтныя людзі "кідаюць" па карце горада Скарыну! Я лічу, што павінна існаваць камісія, якая распрацуе план аднаўлення старых назваў, што будзе апірацца на гістарычныя даследванні ў гэтай галіне. А іх праводзілася безліч! Можа тады назвы зноў будуць належаць народу і стануць візітоўкамі беларускай зямлі. Яны будуць расказваць пра самых сябе, дапамагаць нам жыць, натхняць і цешыць нас. І такія назвы будуць фармаваць грамадзяніна-патрыёта, які будзе глыбока адчуваць сваю повязь з гісторыяй, ахвотна аддаваць сябе росквіту дарагой і адзінай Бацькаўшчыны.

*Павел Сімчанка, гісторык.*

# Б А Б Р Ы

***Паважаны сп. рэдактар звярнуцца да вас нас змусіла вось якая праблема. У час вандровак па сельскай мясцовасці з мэтай збору матэрыялаў, нас проста ўразіла хуткае змяншэння колькасці вясковага насельніцтва. Шмат вёсак, якія існавалі яшчэ 5-7 год назад, цяпер не існуюць. Таму мы паспрабавалі напісаць гісторыю некаторых вёсак ў народных паданнях і легендах, шкада але ўжо некаторых насьбітаў няма у жывых.***

***Шаноўная рэдакцыя мы прапануем свой першы нарыс пра вёску Бабры Лідскага раёна.***

У цэнтры вёскі знаходзіцца яе галоўная славутасць – Крыжаўзвіжанская царква, пабудаваная у 1810 годзе. Згодна з мясцовымі паданнямі менавіта з пабудовай царквы, жыхары звязваюць паходжанне назвы вёскі. Лісіца, што раней вёска называлася **Чаплічы** і стаяла ў нізіне. А калі пабудавалі царкву, то вёску перанеслі да царквы на ўзвышша, а паколькі чаплі жывуць у нізіне, а бабры на ўзвышшах, то новую вёску назвалі **Бабры**.


*Камень-следавік ў вёсцы Бабры Лідскага раёна*

У 1810 годзе царква будавалася як уніяцкая, а пасля 1839 г. стала праваслаўнай. Каля царквы расце дуб у чатыры абхваты. Згодна аповядаў ужо нябожчыка дзеда Бенядзікта, гэтае дрэва, пад час асвячэння храма у 1810 г. пасадзіў нікому яшчэ невядомы падлетак, а ў будучым знакаміты ўсяму свету паэт-дэмакрат Адам Міцкевіч. Ад дзеда Бенядзікта мы пачулі, яшчэ адну цікавую гісторыю, згодна з мясцовымі паданнямі менавіта ў Babrах Вялікі князь Гедзімін павінен быў пабудаваць замак, а не ў Лідзе. Але выйшла наадварот. Каля царквы знаходзіца яшчэ адна мясцовая знакамітасць, камень-следавік з выявай следа Маці Божай. Наогул камяні-валуны з поўнасцю і з часткова выбітай выявай следу чалавека або розных жывёл, шырока распаўсюджанны ў Еўропе і Азіі, трапляюцца і ў Афрыцы. На Беларусі вядома каля сямідзесяці такіх камянёў, якія сканцэнтраваны на поўначы і ў цэнтры краіны. У большасці выпадкаў гэта адзін след у натуральную велічыню, але сустракаюцца і два: звычайна, след дарослага і дзіцяці. Бываюць камені са сладамі жывёл (аленя, зайца, мядзведзя, лісіцы, ваўка, казы, ката)

Паводле меркаванняў некаторых навукоўцаў ў другой палове другога тысячагодзя да нашай эры ў канцы бронзавага веку ўзнік культ камянёў-следавікоў. У той час існавала строгая забарона стварыць выявы багоў. Але зварот да небачнага бога вымушаў чалавека шукаць адзнакі яго бачнай прысутнасці. Таму і з'явіліся выявы "следоў бога".

З прыходам хрысціянства многія следавікі сталі прошчамі. У народзе вада са следавікоў лічыца гаючай і святой. Камень ў Бабрах не з'яўляецца выключэннем. Раней гэты камень знаходзіўся на лузе за вёскай, а ў 20-х гадах мінулага стагодзя айцец Аляксандр перавёз яго пад царкву і асвяціў, кажуць айцец Аляксандр распаўсюджваў беларускую газету "Раніца" і прапаноўваў прыхаджанам падпісвацца на яе.

У 1966 г. царква была прымусова зачынена. Людзі баранілі свой храм, як маглі - лямант жанчын быў чуцён за шмат кіламетраў ад вёскі, мужчыны не пускалі міліцыянтаў у царкоўную браму. Толькі пасярод ночы, на наступны суткі царква была захоплена. Вынік быў жудасны быў знішчаны царкоўны архіў. Паводле сведчанняў вяскоўцаў кнігі былі проста выкінуты ў гразь і патаптаны. У 1991 г. царква была адрамантавана і зноў адчынена. Зараз ў яе два разы на месяц прыязджае бацюшка і праводзіць службу. Падчас апошняга нашага прыезду вяскоўцы доўга спрачаліся, колькі іх засталося 46 ці 48, амаль усе яны пенсіянеры. Перспектыў у сваёй вёскі вяскоўцы не бачаць, лічаць, што за 6-8 гадоў яна знікне. Тут узнікае балючае пытанне, што будзе з храмам, дубам, каменем?

На наш погляд дзяржаве неабходна ўзяць пад ахову не толькі ў Бабрах, але ва ўсёй краіне помнікі архітэктуры і археалогіі, бо ў адваротным выпадку іх чакае незайздросны лёс капліцы ў Цвербутах, якая была знішчана ў самым канцы 20 стагоддзя.

*Міхась Бурачэўскі, Уладзімір Круцікаў, Лявон Лаўрэш.*

*Алесь МАКРАЦОЎ*

## ПАРЦЭЛЫ

* * *

Сусед глядзеў
На луг вачмі касца,
Затым на лес –
Вачамі дрывасека...

* * *

Саюз
Расейскага дома
З беларускімі
Сенцамі...

* * *

Культура...
Гумусны слой
Пясчанай глебы
Айчыны...

* * *

Геніяльныя
Творы мастацтва...
Рэха
Творчасці Бога.

* * *

Дуб векавечны –
Вялікая літара
Сказа
Тутэйшай прыроды...

* * *

Народ
Без сваёй мовы,
Што мастак
Без палітры...

* * *

Складае
На трох мовах:
Талент
Пачаў кусціцца...

* * *

Нібыта шэдэўр
Без рамы,
Народ
Без сваёй
Дзяржаўнасці...

* * *

Вятры
Дабра і зла
Хістаюць
Лістоту душ...

* * *

Між дрэў
Еўрапейскага гаю
Знявечанае дрэва
Беларусі...

Рэдактар Станіслаў Суднік

**Заснавальнік:** ТБМ імя Францішка Скарыны.
**Пасведчанне аб рэгістрацыі:** № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
**Адрас рэдакцыі:** 220034, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
**Адрас для паштовых адпраўленняў:** 231282, г. Ліда-2, п/с 7.
**E-mail:** naszaslowa@tut.by
**http://tbm.org.by/ns/**

**Рэдакцыйная калегія:**
Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Вольга Іпатава, Васіль Ліцьвінка, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Аляксей Пяткевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

**Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі**

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 15. 08. 2005 г. у 11.30. Замова № 1357.
Аб'ём 1 друкаваны аркуш. Наклад 2000 асобнікаў.
**Падпісны індэкс:** 63865.
**Кошт падпіскі:** 1 мес.- 1180 руб., 3 мес.- 3540руб.
**Кошт у розніцу:** па дамоўленасці.